# БЕЛАРУСКА-НЯМЕЦКІ СЛОЎНІК

# BELARUSSISCH-DEUTSCHES WÖRTERBUCH

Больш за 70 тысяч слоў і выразаў
Über 70 000 Stichwörter und Wendungen

*Пад рэдакцыяй*
*Мікалая Кур'янкі, Лявона Баршчэўскага і Томаса Вайлера*
*Herausgegeben*
*von Mikalai Kurjanka, Ljawon Barschtscheŭski, Thomas Weiler*

## Калектыў аўтараў:

Марцінеўскі У. І. (кіраўнік – да 1993 г.), Кур'янка М. І. (кіраўнік – з 1994 г.), Баршчэўскі Л. П., Кёстнэр М., Серка А. В.

*Пры ўдзеле* Антоненкі А. В., Барташа П. А., Вайлера Т., Ермаловіча В. В., Ждановіч А. А., Зарэмбы Л. М., Любчэўскай Н. М., Піскунова Ф. А., Рудакоўскага В. В., Сакалоўскай А. С., Шчэрбіна В. К., Шэлер Ю.

**Беларуска-нямецкі** слоўнік / Belarussisch-Deutsches Wörterbuch : больш за 70 тысяч слоў і выразаў / Пад рэдакцыяй Мікалая Кур'янкі, Лявона Баршчэўскага і Томаса Вайлера. — Мінск :

Гэты слоўнік – першы беларуска-нямецкі слоўнік сярэдняга памеру (больш за 70 тыс. слоў). Універсальны характар дазваляе выкарыстоўваць яго з рознымі мэтамі як у пісьмовай, так і ў вуснай камунікацыі. Маючы выразную фуекцыянальную накіраванасць, слоўнік дапаможа перакласці беларускія тэксты размоўнага, літаратурна-мастацкага, грамадска-палітычнага і эканамічнага характару.

Прызначаецца шырокаму колу карыстальнікаў: перакладчыкам, студэнтам, навуковым даследчыкам і г. д.

© М. І. Кур'янка і інш., 2010.
© Макет. Зміцер Колас, 2010.

# Уступнае слова

Гэты «Беларуска-нямецкі слоўнік» з'яўляецца своеасаблівай вяхой у культурніцкіх кантактах Беларусі і Германіі. Упершыню з друку выходзіць ёмісты даведнік, які дапамагае суаднесці моўна-паняткавы свет аднаго і другога народаў.

Ідэя стварэння беларуска-нямецкага слоўніка прыкладна на 40 тысяч загалоўных слоў узнікла на самым пачатку існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь. Яго распрацоўка пачалася каля дваццаці гадоў таму, у 1992 г., калі Уладзімір Марцінеўскі з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта сфармаваў творчую групу з мэтай стварэння грунтоўнага двухмоўнага слоўніка для школьнікаў, студэнтаў і іншых патэнцыйных карыстальнікаў. Аўтарскі калектыў на чале з Марцінеўскім, з якім шчыльна супрацоўнічаў вядомы перакладчык-германіст Лявон Баршчэўскі, пачаў актыўную працу над рукапісам. Пасля заўчаснай смерці Уладзіміра Марцінеўскага, пачынаючы з 1994 г. агульнае кіраўніцтва праектам пераняў Мікалай Кур'янка. Беларуская частка слоўніка была першапачаткова прапанаваная супрацоўнікамі кафедры беларускай мовы і літаратуры лінгвістычнага ўніверсітэта Алай Сакалоўскай і Віктарам Рудакоўскім, пэўную дапамогу якім аказваў навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вячаслаў Шчэрбін. Пазней найбольшы ўклад у папаўненне і распрацоўку слоўніка ўнеслі Мікалай Кур'янка і Лявон Баршчэўскі.

Колькасць рэестравых слоў была істотна павялічаная. Над падрыхтоўкай часткі артыкулаў слоўніка працавала досыць вялікая група лінгвістаў, у якую ўваходзілі і прадстаўніцы маладзейшага пакалення нямецкіх мовазнаўцаў спадарыня Юлія Шэлер і спадарыня Моніка Кёстнэр. Праца над падрыхтоўкай слоўніка да друку ішла няпроста: фінансаванне праекта, пошукі выдаўца і пытанне давядзення кнігі да друку доўгі час не вырашаліся, хоць увесь гэты час праца над рукапісам не перапынялася. Пры гэтым вялікае значэнне мела фінансавая і тэхнічная дапамога з боку Аляксея Серкі. Слоўнік быў папоўнены значнай колькасцю лексікі з галін эканомікі, фінансаў і гандлю. Урэшце на праект сваю ўвагу звярнуў прыватны выдавец і перакладчык Зміцер Колас. Менавіта ён у 2006 г. ажыццявіў і выданне «Нямецка-беларускага слоўніка» Мікалая Кур'янкі. Сп. Колас з вялікім імпэтам узяўся за канчатковую рэалізацыю гэтага кніжнага праекта, які рыхтаваўся ў суме каля дваццаці гадоў.

Гэты слоўнік мае зрабіцца надзейным і незаменным дапаможнікам для перакладу тэкстаў, а таксама для хуткага пошуку неабходных адпаведнікаў штодзённай побытавай і спецыяльнай лексікі. Беларуская мова на працягу апошніх гадоў набыла большую папулярнасць, і гэты слоўнік мусіць дапамагчы мацаваць беларуска-нямецкае ўзаемаразуменне і кантакты.

Са свайго боку, Нямецка-беларускае таварыства (dbg) прыклала істотныя намаганні, каб выданне «Беларуска-нямецкага слоўніка» зрабілася магчымым. Тут я хацеў бы выказаць асаблівую падзяку майму калегу з управы таварыства Інга Пэцу, які істотным чынам паспрыяў выхаду гэтага слоўніка ў свет: без яго чыннага ўдзелу слоўнік і надалей заставаўся б ненадрукаваным. Падзяка належыць таксама Томасу Вайлеру, які ўзяў на сябе добраахвотны абавязак вычытаць карэктуру ўсяго рукапісу. Асабліва я хацеў бы падзякаваць федэральнаму міністэрству эканомікі і тэхналогій (Bundesministerium für Wirtschaft und Technologie) і праграме «TRANSFORM» за немалую дапамогу і падтрымку. Супрацоўніцтва гэтых устаноў з аўтарскім калектывам слоўніка прывяло да значнага пашырэння слоўнікавага рэестра за кошт эканамічнай

# Geleitwort

Das vorliegende Belarussisch-Deutsche Wörterbuch markiert einen Meilenstein in den Kulturbeziehungen zwischen Belarus und Deutschland. Erstmals liegt ein umfassendes Nachschlagewerk vor, das die Sprachwelten beider Länder exzellent verbindet.

Die Idee dieses Wörterbuches mit rund 40 000 Stichwörtern reicht zurück in die Anfänge des unabhängigen Staates Belarus. Die Arbeit am Buch begann etwa vor zwanzig Jahren, als Uladsimir Marzineuski von der Staatlichen Linguistischen Universität Minsk 1992 ein wissenschaftliches bilinguales Nachschlagewerk für Schule, Universität und Öffentlichkeit anregte. Die Autorengruppe um Uladsimir Marzineuski, darunter der bekannte Germanist Ljawon Barschtscheuski, begann in den neunziger Jahren mit der Erarbeitung des hier vorliegenden Wörterbuches. Nach dem überraschenden Tod Marzineuskis 1994 übernahm Mikalai Kurjanka die Leitung des Projekts. Das belarussische Wörterverzeichnis wurde zunächst vom Lehrstuhl für belarussische Sprache der Linguistik-Universität, hier insbesondere von Ala Sakalouskaja und Wiktar Rudakouski, zusammengestellt. Ihnen zur Seite stand Wjatschaslau Schtscherbin vom Institut für Sprachkunde der Belarussischen Akademie der Wissenschaften. Eine gründliche Ergänzung und Bearbeitung erfuhr das Manuskript später von Kurjanka und Barschtscheuski.

Die Zahl der Stichworte wurde deutlich erweitert. Eine größere Gruppe von Linguisten, darunter auch zwei deutsche Nachwuchsforscherinnen, Frau Julia Scheller und Monika Köstler, hat bei der Ausarbeitung eines Teils der Wortartikel mitgewirkt. Die Vorbereitung zum Druck gestaltete sich schwierig: die Finanzierung, Verlagssuche und Herausgabe verzögerten sich immer wieder, obgleich auch in dieser Zeit die Arbeit am Wörterbuch fieberhaft fortgesetzt wurde, dabei erwies sich vor allem die finanzielle und technische Mitarbeit von Aljaksej Serka als unverzichtbar. Die Lexik wurde zudem um zahlreiche Stichwörter aus dem Sprachfeld der Wirtschaft ergänzt. Um diese Zeit wurde der Privatverleger, Übersetzer und Herausgeber Smizer Kolas auf das Projekt aufmerksam. Kolas hatte 2006 bereits das Deutsch-belarussische Wörterbuch von Mikalai Kurjanka veröffentlicht. Mit großem Engagement machte es sich Kolas zur Aufgabe, dieses zwei Jahrzehnte währende wissenschaftliche und kulturverbindende Buchprojekt zu einem erfolgreichen Abschluss zu führen.

Das Wörterbuch ist für belarussische und deutsche Benutzer ein zuverlässiges, unverzichtbares Hilfsmittel bei der Übersetzung von Texten wie auch beim schnellen Nachschlagen von Begriffen aus Fach- und Alltagssprache. Das Belarussische hat gerade in den vergangenen Jahren an Popularität gewonnen. Dieses Wörterbuch wird helfen, das Verständnis füreinander auszubauen und die belarussisch-deutschen Beziehungen zu festigen.

Die deutsch-belarussische gesellschaft (dbg) hat sich von deutscher Seite bemüht, das Erscheinen des Belarussisch-deutschen Wörterbuchs zu ermöglichen. Insbesondere danke ich meinem dbg-Vorstandskollegen Ingo Petz, der sich maßgeblich für die Realisierung des Wörterbuches eingesetzt hat. Ohne ihn hätte es wohl kaum so schnell zu einer Drucklegung kommen können. Dank gilt auch Thomas Weiler, der sich bereit erklärte, das gesamte Wörterbuch Korrektur zu lesen. Ein ganz besonderer Dank gilt dem Bundesministerium für Wirtschaft und Technologie sowie dem TRANSFORM-Programm für die großzügige Hilfe und Unterstützung. Die Zusammenarbeit führte auch zur Erweiterung der wirtschaftlichen Lexik des Bandes. Es liegt ein Werk vor, das eine belarussisch-deutsche Koproduktion ist, ein beeindrucken-

тэрміналогіі. У выніку мы маем працу, якая ёсць пераканаўчым сведчаннем навуковай кампетэнтнасці і інтэнсіўнасці міжмоўных дачыненняў. «Беларуска-нямецкі слоўнік», у дадатак да існуючых літаратурных перакладаў, бібліяграфічных прац і гістарычных манаграфій, робіцца важкай часткай духоўна-культурнага ўзаемаабмену паміж Беларуссю і Германіяй. Яшчэ раз выказваю глыбокую падзяку ўсім, хто працаваў над ажыццяўленнем гэтага праекта.

*Берлін, 1 ліпеня 2010 г.*

**Райнэр Ліндэр**,
*старшыня Нямецка-беларускага таварыства (dbg), выканаўчы дырэктар Камісіі нямецкага эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі Усходняй Еўропы.*

des Zeugnis wissenschaftlicher Gelehrsamkeit und intensiver Sprachbeziehungen. Den zahlreichen Literaturübersetzungen, den Bibliographien oder den Abhandlungen zur Geschichte kann jetzt ein entscheidendes Element des geistig-kulturellen Austauschs zwischen Belarus und Deutschland hinzugefügt werden: ein belarussisch-deutsches Wörterbuch. Mein Dank gilt allen, die daran mitgearbeitet haben.

*Berlin, den 1. Juli 2010*

**Rainer Lindner**
*Vorsitzender der deutsch-belarussischen gesellschaft (dbg)*
*Geschäftsführer Ost-Ausschuss der Deutschen Wirtschaft*

# Прадмова

Гэты беларуска-нямецкі слоўнік утрымлівае больш за 70 тысяч найчасцей ужывальных беларускіх слоў, словазлучэнняў, фразеалагічных выразаў і іх адпаведнікаў на нямецкай мове. Прызначаецца тым, хто вывучае нямецкую мову, цікавіцца ёю, а таксама для перакладчыкаў.

Слоўнік адрасуецца галоўным чынам беларускамоўным карыстальнікам – як тым, хто вывучае нямецкую мову, так і тым, хто ўжо валодае ёю ў дастатковай меры. Слоўнікам могуць карыстацца таксама нямецкамоўныя асобы, калі яны валодаюць асноўнымі правіламі беларускай арфаграфіі, арфаэпіі, марфалогіі і сінтаксісу.

Загалоўныя словы ахопліваюць самую ўжывальную лексіку сучаснай беларускай мовы – агульналітаратурнага і размоўнага характару, а таксама значную частку найбольш пашыраных словазлучэнняў і выслоўяў. Іх нямецкія адпаведнікі размеркаваны з улікам прыярытэтнага ўжывання ў сучаснай нямецкай мове, а лексіграфічныя пазнакі пры беларускіх словах, словазлучэннях і выслоўях удакладняюць іх значэнні, стылістычныя асаблівасці і сферу ўжывання. Усе словы забяспечаны граматычнымі характарыстыкамі.

У слоўнік, з рэдкімі выняткамі, не ўвайшлі словы дыялектныя, або ў сваім ужытку рэгіянальна абмежаваныя. Тое самае датычыцца і спецыфічных тэхнічных тэрмінаў. Гэтая акалічнасць надае яму ўніверсальны характар, робіць прыдатным для пабудовы фраз у межах параўнаўльна шырокай побытавай і грамадска-палітычнай тэматыкі, зручным пры перакладзе разнастайных беларускіх тэкстаў на нямецкую мову (мастацкай, грамадска-палітычнай, навукова-папулярнай літаратуры, агульнатэхнічных тэкстаў).

У якасці дадатку ў канцы слоўніка пададзены кароткі спіс найбольш ужывальных у беларускай мове скарачэнняў, спіс геаграфічных назваў, спіс нямецкіх дзеясловаў моцнага і няправільнага спражэнняў і іх асноўных граматычных формаў, а таксама граматычныя табліцы беларускай мовы.

Гісторыя складання слоўніка пачалася ў 1992 годзе. На папярэднім этапе працы ўдзельнічалі: У. І. Марцінеўскі (†), А. В. Антоненка, П. А. Барташ, В. В. Ермаловіч, А. А. Ждановіч, Л. М. Зарэмба, Н. М. Любчэўская, Ф. А. Піскуноў, В. В. Рудакоўскі (†), А. С. Сакалоўская, В. К. Шчэрбін, Ю. Шэлер.

На працягу 1994–2001 гадоў асноўную працу над складаннем, рэдагаваннем і падрыхтоўкай рукапісу слоўніка выканалі: М. І. Кур'янка, Л. П. Баршчэўскі (укладанне і рэдагаванне), М. Кёстнэр, А. В. Серка (рэдагаванне нямецкай часткі). У наступныя гады была пашыраная колькасць артыкулаў, перш за ўсё

# Vorwort

Das vorliegende belarussisch-deutsche Wörterbuch richtet sich hauptsächlich an belarussischsprachige Benutzer: sowohl an diejenigen, die Deutsch lernen, als auch an die kompetenten Sprecher des Deutschen. Das Wörterbuch ist auch für deutschsprachige Nutzer geeignet, vorausgesetzt, sie beherrschen die Grundregeln der belarussischen Rechtschreibung, Aussprache, Morphologie und Syntax.

Das Wörterbuch enthält mehr als 70.000 belarussische Wörter, Wortverbindungen und idiomatische Ausdrücke und ihre deutschen Entsprechungen. Die Stichwörter erfassen sowohl den zentralen Wortschatz der belarussischen Gegenwartssprache unter Berücksichtigung der Umgangssprache, als auch eine Anzahl von gängigen Wortverbindungen und idiomatischen Ausdrücken. Die entsprechenden deutschen Einträge sind nach ihrer Anwendungshäufigkeit in der deutschen Gegenwartssprache gekennzeichnet. Die lexikographischen Angaben bei belarussischen und deutschen Stichwörtern unterrichten über Bedeutung, stilistische Bewertung und Anwendungsbereiche. Die Stichwörter haben bestimmte grammatische Angaben.

Das Wörterbuch enthält mit wenigen Ausnahmen keine Dialektausdrücke, keine regional verwendeten Wörter und keine speziellen technischen Fachausdrücke (Termini). Dies verleiht dem Wörterbuch einen universellen Charakter, macht es geeignet sowohl zum Aufbau von deutschen Sätzen, als auch zum Übersetzen von belarussischen Texten ins Deutsche. Ein besonderer Wert wird jedoch auf die Lexik des Außenhandels und der Außenwirtschaft gelegt.

Als Anhang sind ein Verzeichnis der im Belarussischen gebräuchlichsten Abkürzungen, ein Verzeichnis der geographischen Namen, die Liste der deutschen starken und unregelmäßigen Verben mit ihren grammatischen Grundformen und die grammatischen Tabellen des Belarussischen angegeben.

Die Geschichte dieses Wörterbuchs begann im Jahre 1992. An den Anfängen haben mitgewirkt: Uladsimir Marzineuski (†), Anatol Antonenka, Pjotr Bartasch., Wassil Jermalowitsch, Nina Ljubtscheuskaja, Wiktar Rudakouski (†), Fjodar Piskunou, Ala Sakalouskaja, Ljudmila Saremba, Ala Shdanowitsch, Julia Scheller, Wjatschaslau Schtscherbin.

Die grundlegenden Arbeiten für das Wörterbuch - vom Verfassen über das Redigieren bis hin zur Druckvorlage - haben in den Jahren 1994–2001 Mikalai Kurjanka, Ljawon Barschtscheuski (Verfassen und Redigieren der Artikel) sowie Monika Köstner und Aljaksej Serka (Überarbeiten des deutschsprachigen Parts der Artikel) durchgeführt. In den folgenden Jahren wurde das Wörterbuch weiter ergänzt, und die Anzahl der Artikel wurde vergrößert, insbesondere durch Wirtschaftslexik sowie Neologismen. Desto mehr freut es uns, nach fast zwei Jahrzehnten intensiver Arbeit in Person von Smizer Kolas

за кошт неалагізмаў, а таксама знешнегандлёвай і эканамічнай лексікі. Пасля амаль двух дзесяцігоддзяў руплівай працы неацэннай падтрымкай сталася згода выдаўца Зміцера Коласа ўзяцца за падрыхтоўку слоўніка да выдання.

Падзяка аўтараў належыць філолагу і настаўніку М. К. Буслу за зробленыя крытычныя заўвагі. Аўтары ўдзячныя таксама Анастасіі Скабцовай і Юліі Кацюры. Без іх рупнай працы па наборы электроннай версіі слоўніка на працягу апошніх двух гадоў гэтае выданне наўрад ці магло б пабачыць свет акурат цяпер. Адмысловая падзяка належыць Мікалаю Карэліну за карысныя парады пры падрыхтоўцы набору.

Асаблівую падзяку аўтарскі калектыў выказвае Зміцеру Коласу за дзейсную падтрымку і нястомную працу над тэхнічным рэдагаваннем слоўніка, а таксама Томасу Вайлеру за канчатковую вычытку нямецкай часткі.

Аўтары слоўніка добра ўсведамляюць, што першапраходніцкі характар гэтай працы так ці інакш не мог не адбіцца на якасці распрацоўкі як слоўнікавых артыкулаў, так і слоўніка ў цэлым, і будуць удзячныя за любыя парады, скіраваныя на яго паляпшэнне пры наступных выданнях.

*Мінск, жнівень 2010*

*Ад аўтараў* – **Кур'янка М. І.**

einen Verleger für das Ihnen nun vorliegende Wörterbuch gefunden zu haben.

Dem Philologen und Lehrer Mikola Bussel gilt der Dank der Autoren für seine kritische Lektüre des Manuskripts. Die Autoren bedanken sich herzlich auch bei Anastasija Skabtsowa und Julia Katsiura. Ohne ihre Sorgfalt bei der Vorbereitung der elektronischen Vorlage in den letzten zwei Jahren wäre das Erscheinen des Wörterbuches zum jetzigen Termin kaum möglich gewesen.Weiterer Dank geht auch an Mikalai Karelin für hilfreiche Ratschläge bei der Umwandlung des Schreibmaschinenmanuskripts in die elektronische Druckvorlage.

Ganz besonderer Dank gilt Smizer Kolas für seine wichtige und tatkräftige Unterstützung bei der Finalisierung der Druckversion (technische Redaktion), sowie Thomas Weiler für seine freundliche Hilfe bei der Schlusskorrektur des deutschsprachigen Teils des Wörterbuches.

Den Autoren des Wörterbuchs ist bewusst, dass der Pioniercharakter dieser Arbeit möglicherweise sowohl auf die Qualität der Wörterbucheinträge, als auch auf das Wörterbuch insgesamt gewisse Auswirkungen hat. Deshalb sind wir für jegliche Verbesserungsvorschläge für die nächsten Wörterbuchauflagen herzlichst dankbar.

*Minsk, August 2010*

**Mikalai Kurjanka und andere**

# Як карыстацца слоўнікам

Беларускія лексемы пададзеныя ў алфавітным парадку, ад якога дапускаюцца толькі нязначныя адхіленні. Дыграфы **дж, дз** пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку разглядаюцца паасобку, адпаведна як **д, ж** і **д, з**. Літара **ў** на пачатку загалоўных слоў не ўжываецца і паўсюдна замяняецца на **у**. Апостраф пры алфавітным размяшчэнні слоў пад увагу не прымаецца.

Словы аднаго кораня ў шэрагу выпадкаў аб'ядноўваюцца ў адзін артыкул, калі яны ідуць адно за адным паводле алфавіта, напрыклад, з дзеясловам закончанага і незакончанага трывання.

У беларускіх і нямецкіх словах паказаны н а ц і с к, які абазначаецца косай рыскай ( ´ ) над націскным галосным, напрыклад: **наста́ўнік** *м* Léhrer *m*.

У нямецкіх словах, у якіх націск прыходзіцца на галосны гук з умляўтам, ён адсутнічае, але ў выпадках, калі ў слове ёсць два галосныя з умляўтам, націск стаіць над тым з іх, які знаходзіцца ў націскным складзе, напрыклад: űberprüfen. У складаных нямецкіх словах паказаны толькі адзін галоўны націск, які падае звычайна на першы кампанент складанага слова, напрыклад: Méhrwert. Калі націск падае на дыфтонг, то рысачка ставіцца над першай літарай дыфтонга, напрыклад: láufen.

Калі пры нямецкім дзеяслове факультатыўна (у круглых дужках) маецца прыстаўка, на якую падае націск, то на гэтым слове стаяць два знакі націску (адзін на прыстаўцы, другі на корані слова), і тады, калі дзеяслоў ужываецца з прыстаўкай – то другі націск не прымаецца да ўвагі, напрыклад: (áb)légen (*трэба чытаць:* áblegen або légen). Знак націску адсутнічае: 1) на аднаскладовых словах; 2) пры выдзяленні слова курсівам; 3) калі пры нямецкіх словах маецца транскрыпцыя націскнога галоснага.

Пры нямецкіх словах, вымаўленне якіх не падпарадкоўваецца агульным правілам (звычайна гэта словы замежнага паходжання), у прамых дужках падаецца фанетычная транскрыпцыя ўсяго слова або той яго часткі, якая можа выклікаць цяжкасці пры чытанні. Косая рысачка (´), якой абазначаецца галоўны націск, стаіць пры транскрыпцыйным напісанні зверху перад націскным складам, а рысачка знізу – перад другарадным на-

# Hinweise für deutsche Benutzer

Die belarussischen Lexeme sind bis auf unbedeutende Abweichungen alphabetisch geordnet. Der Doppelbuchstabe **дж** wird in der alphabetischen Ordnung wie **д** und **ж**, der Doppelbuchstabe **дз** wie **д** und з behandelt. Der Apostroph ( **'** ) wird in der Reihenfolge nicht berücksichtigt. Man muss auch im Auge behalten, dass die belarussischen Buchstaben у und ў am Anfang der Stichwörter nicht unterschieden und nur als у angegeben werden. Etymologisch zusammengehörende Wörter werden oft unter einem Stichwort alphabetisch zusammengefasst, z. B. mit vollendeten und unvollendeten Verben (Aktionsart). Bei den belarussischen und deutschen Wörtern wird die Betonung mit einem Betonungszeichen ( ´ ) über dem betonten Vokal gezeigt, z. B. **Léhrer**.

Die deutschen Wörter, bei denen ein Umlaut betont ist, haben kein Betonungszeichen; wenn das Wort zwei Umlaute enthält, wird das Betonungszeichen über der betonten Silbe mit dem entsprechenden Umlaut angezeigt: **űberprüfen**. In zusammengesetzten deutschen Wörtern steht nur das Zeichen für den Hauptakzent, der hauptsächlich auf die erste Komponente fällt: **Méhrwert**. Wenn die Betonung auf einen Diphthong fällt, steht das Betonungszeichen über dem ersten Diphthongelement: **láufen**.

Wenn das deutsche Verb eine betonte Vorsilbe hat, (in runden Klammern angegeben, das Verb kann auch ohne Vorsilbe in seiner Grundbedeutung verwendet werden), hat es zwei Betonungszeichen: das eine über der Vorsilbe, das andere über dem Stammvokal. Wenn das Verb mit der Vorsilbe verwendet wird, ist das zweite Betonungszeichen nicht zu beachten: **(áb)légen**: als **(áb)legen** oder **légen** lesen). Das Betonungszeichen steht nicht:

- bei einsilbigen Wörtern
- bei kursiv hervorgehobenen Wörtern
- wenn bei deutschen Wörtern die Lautschrift des betonten Vokals angegeben ist.

Bei deutschen Wörtern, deren Aussprache von den allgemeinen Regeln abweicht (meistens Fremdwörter), ist in eckigen Klammern die Lautschrift des ganzen Wortes oder des entsprechenden Wortteils angegeben. Das Betonungszeichen ( ´ ), das den Hauptakzent bezeichnet, steht in der Lautschrift oben unmittelbar vor der betonten Silbe. Das

цыскным складам, напрыклад: Ingenieur [inʒeni´ør], Flugroute [–ˏru:tə].

Пры б е л а р у с к і х н а з о ў н і к а х паказаны іх род: *м* – мужчынскі род, *ж* – жаночы род, *н* – ніякі род. Назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, маюць памету *мн,* а назоўнікі зборнага значэння – памету *зборн.* Субстантывіраваныя прыметнікі і прыслоўі забяспечаны паметай *наз* з паказальнікам адпаведнага роду.

Пры нямецкіх назоўніках маюцца паказальнікі роду: *m* – мужчынскі род, *f* – жаночы род, *n* – ніякі род, а таксама канчаткі роднага склону адзіночнага ліку і суфіксы множнага ліку. Калі нямецкі назоўнік мае ў множным ліку па два розныя суфіксы, то абодва яны падаюцца і раздзяляюцца паміж сабой злучнікам «*i*».

Памета *sub* (substantiviert) пры субстантываваных прыметніках і прыслоўях і пры складаных словах, у склад якіх яны ўваходзяць у якасці другога кампанента, абазначае, што гэтыя назоўнікі скланяюцца як прыметнікі. Пры гэтым у слоўніку ўмоўна падаюцца канчаткі толькі слабага скланення, да прыкладу: Vórsitzende *m, f* -n, -n. Перад субстантывіраванымі дзеясловамі стаіць артыкль das, а пасля слова – памета (*sub*).

Пры нямецкіх д з е я с л о в а х маюцца ўказанні на пераходнасць (*vt*) *і* непераходнасць (*vi*). Безасабовыя дзеясловы маюць памету *vimp* (verbum impersonalis), а зваротныя дзеясловы адзначаны часціцай *sich.*

Памета (*s*) абазначае, што дзеяслоў спрагаецца з дапаможным дзеясловам *sein; h, s* – што ён можа спрагацца з *haben і sein,* маючы пры гэтым розныя семантычныя значэнні. Дзеясловы, якія спрагаюцца з дапаможным дзеясловам *haben* спецыяльнай паметы не маюць.

Дзеясловы моцнага і няправільнага спражэння пазначаны зорачкай ( * ), якая адсылае карыстальніка да табліцы асноўных граматычных формаў гэтых дзеясловаў у канцы слоўніка, у якой дзеясловы пададзены без прыставак. Дзеясловы няправільнага спражэння *haben, sein, werden* умоўна пададзены без зорачкі.

Пры складаных нямецкіх дзеясловах паметы *аддз* і *неаддз* паказваюць на тое, аддзяляецца ці не аддзяляецца іх першы кампанент ад асновы пры спражэнні. Калі першым кампанентам дзеяслова з'яўляецца прыназоўнік-прыслоўе (паўпрыстаўка), або дзеяслоў мае, напрыклад. прыстаўкі ge-, ver- і інш., то гэтыя паметы адсутнічаюць і карыстальнік павінен арыентавацца ў такіх выпадках на націск. Націск на корані паказвае, што першы кампанент не аддзяляецца, напрыклад: **dúrchfahren** – націск на **durch** паказвае, што гэтая частка дзеяслова пры спражэнні аддзяляецца, і **durchfáhren** – націск на корані слова – што прыстаўка durch пры спражэнні не аддзяляецца.

Б е л а р у с к і я п р ы м е т н і к і спецыяльных пазнак не маюць, акрамя выпадкаў, калі іх граматычныя формы супадаюць з формамі прыслоўяў, і ўжываецца памета *прым*, напрыклад: **да́дзены** *прым і* **да́дзена** *прысл.*

Беларускія прыметнікі часта перакладаюцца на нямецкую мову першым кампанентам складанага слова. Такія словы падаюцца ў слоўніку з дэфісам ( **-** ). Гэта значыць, што яны ва ўказаным значэнні ўжываюцца сумесна з другім нямецкім словам, напрыклад: **вадзяны́** Wásser**-**; ***~óе ацяпле́нне*** Wásserheizung *f* -.

Нямецкія нескланяльныя прыметнікі забяспечаны паметай *inv* (invariablel).

Беларускія з а й м е н н і к і пазначаны паметай *займ.*

Пераклад займеннікаў, якія мяняюцца па родах, пададзены па форме мужчынскага роду. На сваім, паводле алфавіта, месцы прыведзены формы жаночага, ніякага роду і форма множнага ліку, напрыклад: **гэ́та** *займ* díeser (*f* díese, *n* díeses, *pl* díese).

Пераклад і формы ўскосных склонаў асабовых займеннікаў пададзены пры назоўным склоне, а на сваім, паводле алфавіта, мес-

Betonungszeichen unten ( ˏ ) steht vor der zweitbetonten Silbe: **Flugroute** [–ˏru:tə]

Das grammatische Geschlecht der belarussischen Substantive wird folgendermaßen angegeben: *м* – Maskulinum, *ж* – Femininum, *н* – Neutrum. Substantive, die nur oder meistens im Plural verwendet werden, werden mit *мн* gekennzeichnet, bei Substantiven, die Sammelbegriffe bezeichnen, steht der Hinweis *зборн*. Bei substantivierten Adjektiven und Adverbien steht die Angabe у *знач. наз* (als Substantiv gebraucht) sowie die Genus-Kennzeichnung.

Das grammatische Geschlecht der deutschen Substantive wird wie folgt gekennzeichnet: *m* – für Maskulinum, *f* – für Femininum, *n* – für Neutrum. Es werden auch Genitivendungen im Singular sowie Pluralendungen der Substantive im Nominativ angeführt. Wenn ein deutsches Substantiv im Plural zwei verschiedene Pluralsuffixe besitzt, werden diese durch die Konjunktion «und» ( *i* ) getrennt angegeben. Die Angabe (*sub* – substantiviert) bei substantivierten Adjektiven, Adverbien und zusammengesetzten Substantiven, die ein Adjektiv oder Adverb als zweite Komponente haben, bedeutet, dass diese Substantive wie Adjektive dekliniert werden. Dabei werden im Wörterbuch nur die Endungen der schwachen Deklination angegeben, z. B.: **Vórsitzende** *m, f* -n, -n. Vor den substantivierten Verben steht der bestimmte Artikel *das,* hinter diesen Verben steht die Angabe (*sub*).

Bei deutschen Verben wird verzeichnet, ob sie transitiv (*vt*) oder intransitiv (*vi*) sind. Unpersönliche Verben werden mit *vimp* (verbum impersonalis) gekennzeichnet, bei reflexiven Verben steht das Reflexivpronomen *sich.*

Die Angabe (*s*) weist darauf hin, dass das Verb mit dem Hilfsverb *sein* konjugiert wird. Die Angabe (*h, s*) bedeutet, dass das Verb sowohl mit *haben* als auch mit *sein* – je nach seiner semantischen Bedeutung – konjugiert wird. Verben, die nur mit *haben* konjugiert werden, haben keine speziellen Angaben bei sich.

Starke und unregelmäßige Verben werden mit dem Stern ( * ) gekennzeichnet. Der Wörterbuchnutzer kann ihre grammatikalischen Formen am Ende des Wörterbuches in der Konjugationstabelle nachschlagen. In der Konjugationstabelle werden die Verben ohne Präfixe angegeben. Bei den unregelmäßigen Verben *haben, sein, werden* steht kein Stern (*).

Die Angaben *аддз, неаддз* (trennbar/untrennbar) bei den Verben mit Präfixen zeigen an, ob das Präfix trennbar oder untrennbar ist. Wenn das Verb Halbpräfixe oder die Präfixe ge-, be-, ver-, usw. besitzt, fehlen diese Angaben, der Nutzer soll in diesem Fall die Betonung beachten. Der betonte Stammvokal deutet darauf hin, dass der erste Verbteil nicht trennbar ist, z. B. **durchfáhren** – die Betonung auf dem Stammvokal zeigt, dass das Präfix **durch** bei der Konjugation nicht trennbar ist; **dúrchfahren** – die Betonung auf **dúrch** zeigt, dass dieser Verbteil bei der Konjugation trennbar ist.

Belarussische Adjektive haben keine speziellen Angaben, abgesehen von den Fällen, in denen ihre grammatikalischen Formen mit denen der Adverbien übereinstimmen. Dann sind sie mit den Angaben *прым* (Adjektiv) oder *прысл* (Adverb) gekennzeichnet.

Belarussische Adjektive werden oft ins Deutsche durch die erste Komponente eines zusammengesetzten Substantivs übersetzt. Solche Wörter werden im Wörterbuch mit dem Trennungsstrich ( - ) angegeben. Das bedeutet, dass sie in der angegebenen Bedeutung zusammen mit einem anderen deutschen Wort verwendet werden, z. B. **вадзяны́** Wásser-; ***~óе ацяпле́нне*** Wasserheizung *f.*

Deutsche undeklinierbare Adjektive werden mit *inv* (invariabel) gekennzeichnet. Bei belarussischen Pronomen steht die Angabe *займ*, bei den deutschen *pron.* Die Übersetzung von Pronomen, die verschiedene Genusformen haben, richtet sich nach der Form im Maskulinum. Alphabetisch geordnet sind die Formen im Femininum, Neutrum sowie Pluralform angeführt, z. B. **гэ́та** *займ* **díeser** (*f* díese, *n* díeses, *pl* díese).

Die Übersetzung von Personalpronomen wird im Nominativ ange-

цы – формы ўскосных склонаў са спасылкай на назоўны склон, напрыклад: **я** *займ* ich (*G* meiner, *D* mir, A mich).

Амонімы падаюцца ў розных слоўнікавых артыкулах і пазначаюцца рымскімі лічбамі, а розныя значэнні адной і то жа лексічнай адзінкі падаюцца ў адным артыкуле і пазначаюцца адпаведнымі тлустымі арабскімі лічбамі, напрыклад:

**асмалíць, асмáльваць I 1.** séngen *vt;* ábsengen *vt* (*свінню, курыцу*)*;* **2.** (*абвугліць*) ver Kóhlen *vt*

**асмалíць, асмáльваць II** (*пакрыць смалою*) téeren *vt*

Пададзеныя ў слоўніку словаспалучэнні і прыклады размеркаваныя паводле адпаведных значэнняў. Пасля ўсіх значэнняў пэўнай лексемы са знакам ◊ (*ромб*) падаюцца ўстойлівыя фразеалагізмы, ідыёмы, прыказкі і прымаўкі.

geben, alphabetisch geordnet werden die Formen im Gen., Dat, und Akk. angegeben, z. B. я *займ* **ich** (*G* meiner, *D* mir, *A* mich).

Die Homonyme werden unter verschiedenen Stichwörtern voneinander abgesetzt und mit römischen Zahlen gekennzeichnet; verschiedene Bedeutungen eines Wortes werden dagegen unter einem Stichwort zusammengefasst und mit fett gedruckten arabischen Zahlen versehen, z. B.

**асмаліць. асмáльваць I 1.** sengen *vt;* absengen vt; **2.** verkohlen

**асмаліць. асмáльваць II** teeren *vt*

Die im Wörterbuch erfassten Wortverbindungen und Beispiele sind nach den entsprechenden Wortbedeutungen geordnet. Nach allen Bedeutungen eines Lexems (Wortes) werden mit dem Zeichen ◊ (Raute) feste Wortverbindungen, idiomatische Wendungen und Sprichwörter angegeben.

# Умоўныя абазначэнні і знакі

| *вертыкальная лінія* аддзяляе нязменную частку загалоўнага слова, а калі яна (або ўсё слова) паўтараецца ў слоўнікавым артыкуле, то замяняецца знакам ~ (*тыльда*).

~ *тыльда* замяняе слова або яго частку.

, *коска* аддзяляе блізкія значэнні слова.

; *кропка з коскай* аддзяляе розныя значэнні шматзначнага слова.

: *двухкроп'е* пасля загалоўнага слова значыць, што гэтае слова самастойна не ўжываецца, або тое, што яно мае канкрэтнае значэнне толькі ў дадзеным словаўжыванні.

ʹ *знак націску* стаіць над націскным галосным, а ў транскрыпцыйным напісанні – перад націскным складам.

\+ *знак плюс* значыць, што моўны зварот ужываецца з часціцай zu і неазначальнай формай дзеяслова.

≅ *знак прыблізнай роўнасці* паказвае на тое, што наступны за ≅ пераклад толькі блізкі па сэнсе да беларускага звароту і адрозніваецца ад яго па форме або вобразнасці.

◊ пасля знака *ромб* падаюцца ўстойлівыя фразеалагізмы, ідыёмы, прыказкі і прымаўкі.

¦ *перарывістая вертыкальная лінія* паказвае на тое, што раздзеленыя ёю галосныя вымаўляюцца раздзельна.

\- *дэфіс* замяняе корань або аснову слова пры падачы словаўтваральных элементаў, а таксама пры скланенні назоўнікаў і стаіць непасрэдна пасля словаўтваральнага прэфікса, перад канчаткам роднага склону адзіночнага ліку або перад суфіксам множнага ліку.

**1.**, **2**... *арабскія лічбы* выдзяляюць асобныя значэнні шматзначнага слова.

**I**, **II**... *рымскія лічбы* абазначаюць амонімы.

( ) *у круглыя дужкі* заключаюцца факультатыўныя словы або часткі слоў, а таксама розныя тлумачэнні, удакладненні і г. д.

[ ] *у квадратных дужках* падаецца ў неабходных выпадках фанетычная транскрыпцыя ўсяго слова або яго часткі, а таксама сінонімы і сінанімічныя выразы. У слоўніку выкарыстаны знакі міжнароднай фанетычнай транскрыпцыі.

# Im Wörterbuch verwendete Zeichen

| Der senkrechte Strich im ersten Stichwort einer Gruppe trennt den Teil ab, der allen folgenden Wörtern der Gruppe gemeinsam ist.

~ Die Tilde vertritt in Wendungen innerhalb des Artikels das ganze, unmittelbar vorhergehende Stichwort. Die Tilde vertritt das ganze erste Stichwort einer Gruppe oder den vor dem senkrechten Strich stehenden Teil des Stichwortes.

, Das Komma trennt ähnliche Bedeutungen eines Wortes.

; Das Semikolon trennt verschiedene Bedeutungen eines mehrdeutigen Wortes.

: Der Doppelpunkt nach dem Stichwort bedeutet, dass dieses Wort allein nicht verwendet wird oder eine bestimmte Bedeutung nur in der vorliegenden Wortverbindung hat.

ʹ Das Betonungszeichen steht über dem betonten Vokal, bzw. in der Lautschrift vor dem betonten Vokal.

\+ Das Pluszeichen heißt, dass die Wortverbindung mit zu und dem Infinitiv des Verbs verwendet wird.

≅ Die Übersetzung entspricht nicht völlig dem belarussischen Originaltext, eine Erklärung des Stichwortes ist erforderlich.

◊ Die Raute kennzeichnet idiomatische Wendungen und feste Wortverbindungen.

¦ Der unterbrochene Strich kennzeichnet die getrennte Aussprache der von ihm abgetrennten Vokale.

\- Der Bindestrich grenzt den Wortstamm von den Wortbildungselementen ab, kennzeichnet den Wortstamm bei der Deklination der Substantive und steht unmittelbar nach dem Wortbildungspräfix, vor der Genitivendung im Singular oder vor der Pluralendung.

**1., 2...** Halbfette arabische Zahlen kennzeichnen verschiedene Bedeutungen eines mehrdeutigen Wortes.

**I, II...** Römische Zahlen bezeichnen Homonyme.

( ) In runden Klammern stehen Hinweise, Erklärungen oder fakultative Wörter bzw. Wortteile des Wortes.

[ ] In eckigen Klammern stehen die Lautschrift des Wortes oder des Wortteils, sowie sinnverwandte Wörter und Ausdrücke. Die phonetische Umschrift erfolgt grundsätzlich nach den Regeln der IPA (Association Phonétique Internationale).

# Тлумачэнне чытання некаторых літар і спалучэнняў літар нямецкай мовы
# Leseregeln

| Літара | Гук | Прыклад |
|---|---|---|
| ä | ɛ | Männer |
| | ɛː | Bär |
| äu | ɔĭ | Häuser |
| ee | eː | Meer |
| ei | aĭ | Eis |
| eu | ɔĭ | Leute |
| ie | iː | Miene |
| oo | oː | Moos |
| ö | œ | Löffel |
| | øː | Möwe |
| ü | | Füllen |
| | yː | Fühlen |
| y | y | Lyrik |
| c | k | Café |
| | ʦ | Cito |
| ch | x | Ach |
| | ç | Ich |
| chs | ks | Wachsen |
| ck | k | Ecke |

| Літара | Гук | Прыклад |
|---|---|---|
| dt | t | Stadt |
| pf | pf | Pferd |
| ph | f | Philosoph |
| qu | kv | Quelle |
| s | s | Was |
| | z | Singen |
| ss | s | Essen |
| ß | s | Fuß |
| sch | ʃ | Schön |
| sp | ʃp | Spielen |
| | sp | Knospe |
| st | ʃt | Stehen |
| | st | Ast |
| th | t | Theater |
| ti | ʦĭ | Nation |
| tz | ʦ | Satz |
| v | f | Vater |
| | v | Vase |

# Транскрыпцыйныя знакі і іх вымаўленне
# Umschriftzeichen und ihre Aussprache

[ɑː] вымаўляецца як беларускае «а», але больш напружана і працягла.
[a] вымаўляецца як беларускае «а», толькі коратка.
[eː] вымаўляеца працяжна, закрыта, крыху падобна да беларускага «э» у слове «дзеці».
[ɛː] вымаўляецца як беларускае «э», толькі больш працягла.
[ɛ] адпавядае прыкладна беларускаму «э» у слове «гэты», вымаўляецца аднак больш коратка.
[ə] кароткі ненапружаны гук, які стаіць звычайна ў ненаціскных складах (пры напісанні «е»), вымаўляецца падобна да ненаціскнога «ы».
[iː] вымаўляецца як беларускае «і», толькі працягла і напружана.
[i] вымаўляецца як «і», толькі коратка і адкрыта (пасля зычных - бліжэй да націскнога «ы»).
[ĭ] нескладовае «і», вымаўляецца блізка да «й», але менш напружана.
[oː] вымаўляецца як беларускае «о», але больш напружана, працягла, з моцна выпучанымі губамі.
[ɔ] гук больш выразны і адкрыты чым беларускае «о».
[uː] вымаўляецца як беларускае «у», толькі больш напружана і працягла.
[ʊ] вымаўляецца больш коратка як беларускае «у».
[yː] пастава языка як пры беларускім «і», а губы выпучваюцца наперад.
[y̆] папярэдні гук, вымаўлены без утварэння асобнага складу.
[ ] вымаўляецца як нямецкае [yː], толькі адкрыта і коратка.
[øː] пры вымаўленні губы выпучваюцца як пры [o], а пастава языка як пры [eː].
[œ] вымаўляецццa як нямецкае [øː], толькі коратка і адкрыта.
[ãː], [õː], [ɔ̃], [ɛ̃ː] } вымаўляюцца як адпаведныя галосныя, але ў нос.
[j] прыкладна адпавядае беларускаму «й», але вымаўляецца больш напружана.
[ʃ] вымаўляецца як беларускае напружанае «ш».
[z] вымаўляецца як «з», толькі не вельмі гучна.
[ʧ] вымаўляецца прыкладна як беларускае «ч».
[ʦ] вымаўляецца прыкладна як беларускае «ц».
[ŋ] вымаўляецца як насавое «н».
[ç] гук падобны да беларускага мяккага «х´».
[ʒ] вымаўляецца як беларускае «ж».
[ʤ] вымаўляецца прыкладна як беларускае «дж».
[x] вымаўляецца як беларускае «х».
[w] вымаўляецца як беларускае «ў».
[θ] вымаўляецца як англійскае міжзубнае глухое «th».
[aĭ] дыфтонг, вымаўляецца прыкладна як беларускае «ай».
[aʊ] дыфтонг, вымаўляецца прыкладна як беларускае «аў».
[ɔĭ] дыфтонг, вымаўляецца прыкладна як беларускае «ой».

# Standardaussprache der belarussischen Buchstaben

| Buchstabe | Aussprache | Beispiele |
|---|---|---|
| Аа | [a],<br>[ə] – unbetont | гр**а**к<br>салом**а** |
| Бб | [b],<br>[p] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes,<br>[b’] – vor **е, ё, і, ю, я** | **б**агна<br>гра**б**<br><br><br>**б**елы |
| Вв | [v],<br>[v’] – vor **е, ё, і, ю, я** | **в**ыйсце<br>запа**в**ет |
| Гг | [ɣ],<br>[ɣ’] – vor **е, ё, і, ю, я**<br>[x] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes;<br>[g] – in den Wörtern **ганак, гонта, гузік, мазгі, розгі, рэзгіны** und einigen anderen | **г**орад<br>**г**ектар<br>ро**г** |
| Дд | [d],<br>[t] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes | ма**д**эль<br>ка**д**ка |
| Дж дж | [ʤ],<br>[ʧ] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes | **дж**ала<br>дож**дж** |
| Дз дз | [dz],<br>[dz’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** sowie vor **б** [b’], **в** [v’], **л** [l’], **м** [m’], **н** [n’]<br>[ʦ] – am Silbenende (vor einem unpalatalisierten stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes,<br>[ʦ’] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten)<br>sowie am Ende des Wortes vor **ь** | **дз**ындра<br>**дз**якуй<br>ксён**дз**<br><br><br>Жму**дзь** |
| Ее | [e],<br>[i] – unbetont<br>[je] – am Wortanfang oder nach einem Vokal, oder nach dem Apostroph | л**е**с<br>п**е**раход<br>**е**лка, п’**е**са |
| Ёё | [o],<br>[jo] – am Wortanfang oder nach einem Vokal, oder nach dem Apostroph | с**ё**мы<br>**ё**д |
| Жж | [ʒ],<br>[ʃ] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes | сена**ж**аць<br>спра**ж**ка |
| Зз | [z],<br>[z’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** sowie vor **б** [b’], **в** [v’], **дз** [dz’], з [z’], **л** [l’], **м** [m’], **н** [n’]<br>[s] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes,<br>[s’] – am Silbenende (vor einem stimmlosen Konsonanten) sowie am Ende des Wortes vor **ь** | **з**ахад<br>во**з**ера, ры**зз**ё<br><br>гра**з**ка<br><br>ма**зь** |
| Іі | [i],<br>[ji] – am Wortanfang oder nach dem Apostroph | |

| Buchstabe | Aussprache | Beispiele |
|---|---|---|
| Йй | [j] | мо**й** |
| Кк | [k],<br>[k’] – vor **е, ё, і, ю, я,**<br>[g] – am Silbenende sowie am Ende des Wortes vor **б, г, д, дж, дз, з, ж** | а**к**ула<br>**к**ішэнь<br>ва**к**зал |
| Лл | [ɫ],<br>[l’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** | **л**амаць<br>парка**ль** |
| Мм | [m],<br>[m’] – vor **е, ё, і, ю, я** | с**м**алец<br>прад**м**ет |
| Нн | [n],<br>[n’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** sowie vor **дз** [dz’], з [z’], **н** [n’], **с** [s’], **ц** [ʦ’] | **н**ораў<br>па**н**іка,<br>на вера**н**дзе |
| Оо | [o] | ап**о**страф |
| Пп | [p],<br>[p’] – vor **е, ё, і, ю, я,**<br>[b] – vor **г, д, з, ж** | мал**п**а<br>**п**ісьменнік<br>по**п**-група |
| Рр | [r] (*Zungenlaut*) | т**р**акта**р** |
| Сс | [s],<br>[s’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** sowie vor **в** [v’], **л** [l’], **м** [m’], **н** [n’], **п** [p’], **с** [s’], **ф** [f’], **ц** [ʦ’] sowie am Ende des Wortes vor **ь**<br>[z] – vor **б, г, д, дж, дз, з, ж**<br>[z’] – vor **б** [b’] | **с**умка<br>**с**іні, **с**вет<br><br><br><br>ча**с** даезду |
| Тт | [t],<br>[d] – vor **б, г, д, дж, дз, з, ж** | па**т**ушыць<br>фу**т**бол |
| Уу | [u] | в**у**ха |
| Ўў | [w] | ко**ў**зацца |
| Фф | [f],<br>[f’] – vor **е, ё, і, ю, я** | **ф**акт<br>ра**ф**інаваны |
| Хх | [x],<br>[x’] – vor **е, ё, і, ю, я,**<br>[ɣ] – vor **б, г, д, дж, дз, з, ж** | поспе**х**<br>**х**ітры<br>па**х** бульбы |
| Цц | [ʦ],<br>[ʦ’] – vor **е, ё, і, ю, я, ь** sowie vor **в** [v’], **ц** [ʦ’] sowie am Ende des Wortes vor **ь**;<br>[dz] – vor **б, г, д, дж, дз, з, ж**<br>[dz’] – am Silbenende sowie am Ende des Wortes vor **б** [b’], **з** [z’] | на**ц**энка<br>**ц**вісці<br><br><br>Лао **Ц**зы<br>пала**ц** ЗІЛа |
| Чч | [ʧ],<br>[ʤ] – am Silbenende sowie am Ende des Wortes vor **б, г, д, з, ж** | **ч**араваць<br>наўзбо**ч** дома |
| Шш | [ʃ],<br>[ʒ] – vor **б, г, д, дж, дз, з, ж** | **ш**ышка<br>куле**ш** да стала |
| Ыы | [ɨ],<br>[ə] – unbetont | тр**ы**ста<br>тр**ы**ванне |
| Ээ | [ɛ],<br>[ə] – unbetont | р**э**ха<br>**э**кватар |
| Юю | [u],<br>[ju] – am Wortanfang oder nach einem Vokal, oder nach dem Apostroph | с**ю**ды<br>**ю**хт |
| Яя | [a],<br>[ja] – am Wortanfang oder nach einem Vokal, oder nach dem Apostroph | п**я**чора<br>**я**вар |

**Anmerkung:** Das Zeichen [’] bedeutet die Palatalisierung des entsprechenden Konsonanten.

# Лексікаграфічныя крыніцы
# Lexikographische Quellen


Александрова Т. С., Пригоникер И. Б. Новые слова в XXI веке: Немецко-русскій словарь. – М. : АСТ, Астрель, Хранитель, 2007.

Баршчэўская А. Л., Баршчэўскі Л. П. Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы. – Мн.: Радыёла-плюс, 2010.

Беларуска-рускі слоўнік. У 2 т. / АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. Рэд. К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва). 2-е выд., перапрац. і дап. – Мн.: БелСЭ, 1988.

Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах. Т. 1–18. – Мн.: БелЭн, 1996–2004.

Большой немецко-русский словарь. В двух томах / Сост. Е. М. Лепинг,Н. П. Страхова,Н. И. Филичева,М. Я. Цвиллинг,Р. А. Черфас. Под руководством проф. О. И. Москальской. – М.: Сов. Энциклопедия, 1969.

Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя / Навук. рэд. В. П. Русак. – Мн.: Бел. навука, 2009.

Дополнение к Большому немецко-русскому словарю / Сост. М. Я. Цвиллинг, Е. М. Лепинг, Н. П. Страхова, Н. И. Филичева, Р. А. Черфас. Под руководством проф. О. И. Москальской. – М.: Рус. яз., 1982.

Жданов И. Ф., Мясникова Г. В., Мясников Н. Н. Русско-немецкий внешнеторговый и внешнеэкономический словарь. – М.: Рус. яз., 1999.

Завальнюк У. М., Прыгодзіч М. Р., Раманцэвіч В. К. Слоўнік сучаснай беларускай мовы. – Мн.: Народн. асвета, 2009.

Зуев А. Н. Новый русско-немецкий словарь. – М.: Иностр. яз., «Оникс 21 век», 2005.

Кароткі беларускі тэрміналагічны царкоўны слоўнік / Склаў мітр. Мікалай. – Таронта: Выд. БАПЦ, 1992.

Кароткі эканамічны слоўнік / Пад рэд. М. І. Платніцкага. – Мн.: БДЭУ, 1993.

Клышка М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў. 2-е выданне. Пад рэд. Л. А. Антанюк. – Мн.: Вышэйш. школа, 1993.

Кур'янка М. Нямецка-беларускі слоўнік / Рэдкал.: Кур'янка М. І., Кур'янка Я. І., Рудакоўскі В. В. і інш. – Мн.: Выдавец Зміцер Колас, 2006.

Лепешаў І. Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–2. – Мн.: БелЭн, 1993.

Никифорова А. С. Немецко-русский словарь по бизнесу. – М.: Словари, 1993.

Новий німецько-український, українсько-німецький словник / За ред. Е. І. Лисенко. – Київ: А.С.К., 2002.

Павловский И. Я. Русско-немецкий словарь. В 2-х т. Т. I: А – О. Т. II: П – Я. – М.: АСТ, Астрель, Хранитель, Харвест, 2006 (переизд. словаря 1869 г.).

Радкевич В. А., Вардомацкий Л. М., Лешко А. А. Биологическая терминология и номенклатура: Словарь русско-белорусско-латинский, белорусско-русский. – Мн.: Вышэйш. школа, 1993.

Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі / Скл. Г. У. Арашонкава, В. А. Бабкова, Т. П. Бандарэнка і інш., пад рэд. М. В. Бірылы і Г. У. Арашонкавай. – Мн.: Ураджай, 1994.

Русско-белорусский математический словарь / Под ред. проф. Я. В. Радыно. – Мн.: Вышэйш. школа, 1993.

Русско-белорусский политехнический словарь / Ред. Бурак И. Л., Орешонкова А. В., Люштик В. В. Т. 1, 2. – Мн.: Бел. навука, 1997–1998.

Русско-белорусский словарь: В 3 т. / АН Беларуси, Ин-т языкознания им. Я. Коласа; 5-е изд., испр. – Мн.: БелЭн, 1994.

Русско-белорусско-немецко-английский словарь по механике / Под общ. ред. Ю. М. Плескачевского. – Мн.: БелЭн, 2005.

Русско-немецкий словарь (основной). Ок. 53000 слов / 2-е изд., стереотип., под ред. К. Лейна. – М.: Рус. яз., 1989.

Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мн: Навука і тэхніка., 1991.

Слоўнік беларускай мовы / Пад рэд. М. В. Бірылы. – Мн.: БелСЭ, 1987.

Струкава С. М. Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў (па творах беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі). – Мінск: Беларуская навука, 2007.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. – Т. 1–5. – Мн.: БелСЭ, 1977–1984.

Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко. – Мн.: БелЭн, 1996.

Тлумачальны слоўнік гандлёвых тэрмінаў / Пад агульн. рэд. Р. П. Валевіч. – Мн.: Вышэйшая школа, 1995.

Уласевіч В. І., Даўгалевіч Н. М. Слоўнік новых слоў беларускай мовы. – Мінск: ТетраСистемс, 2009.

Bassawa, H., Düwel, S. Weißrussisch-Deutsches Wörterbuch. – Friedrich-Schiller-Universität Jena, Institut für Slawistik, 2000.

Belauski, S. N. Die Umgangssprache mit ihrem Slang: Handbuchlexikon. – Minsk: Wyschejschaja Schkola, 2009.

Duden. Aussprachewörterbuch: Wörterbuch der deutschen Standardaussprache. 3., völlig neu bearbeitete und erweiterte Aufl. Bearb. von Max Mangold in Zusammenarbeit mit der Dudenredaktion (Duden: Bd. 6). – Dudenverlag. Mannheim / Leipzig / Wien / Zürich, 1990.

Duden. Das große Wörterbuch der deutschen Sprache / In 6 Bd. Hrsg. u. bearb. von der Dudenred. unter Leitung von G. Drosdowski. – Dudenverlag. Mannheim / Wien / Zürich, 1976–1981.

Duden. Die deutsche Rechtschreibung. 23., völlig neu bearbeitete und erweiterte Auflage. Herausgegeben von der Dudenredaktion. – Dudenverlag. Mannheim / Leipzig / Wien / Zürich, 2004.

Grundwortschatz Deutsch / Bearb.: H. Oehler.- München: Klett-Verlag, 1991.

Hurtig, Claudia; Ramza, Taccjana. Belarussische Grammatik in Tabellen und Übungen. – Verlag Otto Sagner, München, 2003 (Slavistische Beiträge Nr. 420).

Proverbia et dicta: Шасцімоўны слоўнік прыказак, прымавак і крылатых слоў / Пад рэд. Н. А. Ганчаровай, прадм. Л. П. Баршчэўскага. – Мн.: Універсітэцкае, 1993.

Russisch-deutsches Wörterbuch / Hrsg. von R. Ruzicka. 7. Aufl. – VEB Bibliographisches Institut Leipzig, 1969.

Ukrainisch-deutsches Wörterbuch. Bearb. von Zeno Kuzelja u. Jaroslav B. Rudnyćkyj. Unter Mitw. von S. Iwanyćkyj u. K. H. Meyer. 3. Aufl. – Wiesbaden : Harrassowitz, 1987.

Wahrig, Gerhard. Deutsches Wörterbuch. Völlig überarb. Neuauflage. – München: Mosaik, 1986.

Wörterbuch der deutschen Gegenwartssprache. / In 6 Bd. Hrsg. von Ruth Klappenbach, und Wolfgang Steinitz. – Berlin: Akademie-Verlag, 1967–1977.

Wörter und Wendungen. Wörter zum deutschen Sprachgebrauch. Hrsg. von Dr. Erhard

Agricola unter Mitwirkung von Herbert Görner und Ruth Küfner. – VEB Bibliographisches Institut Leipzig, 1962.

